# ВЕЧА-VIEČA




Год iii, 1972 –Чэрвень– №2(16) –June,– Year iii, 1972

Беларускі квартальны часапіс Byelorussian Quarterly Magazine

ЗЬМЕСТ

# ГАНДЛЁВАЕ МЕСТА МЕНЬСК–СТАЛІЦА БЕЛАРУСІ МЕНСК

## маіць адзін міліён жыхароў

Мена таварамі, якая адбывалася ў вярхоў, і права сярэдняга прытоку Дняпра Сьвіслачы дый вярхоўях Нёману, Пцічы і Случы; на паўднёва заходняй ускраіне крывіцкага племя, пры стоку рэчкі Нямігі ў Сьвіслач, было заснавана места Менеск, Меньськ а потым Менск

Да пачатку 12 веку Менск належыў да Полацкага княжаства. У 1101 годзе Менск быў цэнтрам вудзельнага княжаства па рацэ Сьвіслач. У 14 стагоддзі Гэдымін падпарадкоўвае Менск Вялікаму Княжаству Літоўскаму. Эканоміка, нацыянальная культура разьвіваліся аж да 16 стагоддзя, пакуль ня была заключана вунія паміж Літвой і Польшчай. Пад канец упаду рэчыпаспалітай (18 стагоддзе), часткаю якой была Літва, насельніцтва Менску налічвалась да 5 тысяч чалавек, у вялікай ступені было спалянізавана, як рэзультат вуніі із Польшчай.

1793 год, Менск заваёўваіць Расея. Расейскія губэрнатары нішчылі ўсё, што прыдавала Менску самабытнасьць. Гандаль быў амаль шчэзнуў.

Перад Першай Сьветавой Вайной у Менску жыло каля 120 тысяч чалавек. На кожных сто жыхароў было 40 Беларусоў. Палова гораду засялялі жыды, як гандляры, рамесьленьнікі. Польская інтэлігенцыя жыла за кошт няпісьменнасьці беларускіх каталікоў Чыноўнікамі ў горадзе былі навезеныя расейцы. Горад меў 14 праваслаўных цэрквы 50 сінагог, 5 касьцёлаў, адна мячэць, 2 манастыры. Большасьць вуліц ня былі вымашчанымі. Большасьць дамоў горада былі збудаваны із дрэва. Чыгуначны вузел прыдаў гораду Менску стратэгічнае значэньне для Расейскай імпэрыі на Захадзе.

Калі да 17 веку г. Менск разьвіваўся, як гандлёвае места то ў 1918г. тут не бяз прычыны, паўстаў палітычны цэнтар Беларускага Народа. У гэты час Менск знаходзіўся на франтавой лініі Першай Сьветавой Вайны паміж Расеяй і Нямеччынай. Тут былі паўсталі ўмовы склікаць Першы Ўсебеларускі Кангрэс, стварыць Беларускі Ўрад. Менск быў абраны сталіцай Беларускай Народнай Рэспублікі. Пазьней бальшавіцкія абманьшчыкі рэвалюцыі перавандравалі із сваей БССР да Менску. Вільня і Смаленск страцілі ролю сталіц. Па прычыне блізасьці да да польскай мяжы, перад 1939 годам была пастанова перавесьці сталіцу БССР із Менску да г. Магілева. Чаму Масква была абрала Магілеў а ня Віцебск ці найбольш цэнтральна геаграфічны раён Беларусі сі Воршу ёсьць невядома. Хіба із-за страху, што асабліва раён Воршы меў багатую антырасейскую гісторыю, вялікі эканамічна палітычны і вайскова стратэгічны патэнцыял для ўсяе Беларусі; а не так, як Менск, які толькі важны ў вярхоў'і некалькіх рэк

Здабыўшы Заходнюю Беларусь ад Польшчы ў 1939 годзе, балшавікі зьліквідавалі ідэю шуканьня новай сталіцы для БССР.



Двухразовая акупацыя і нішчэньне Менску праз немцаў і расейцаў(1941—44), пакінулі руіны ў цэнтры горада. Так выглядала ў 1944 г. былая Савецкая вуліца і навакол яе(перанайменавана ў Ленінскі праспэкт).

*The downtown Miensk in 1941—44 war was destroyed by Russian and German armies.*

Руйнаваны праз кіеўлян, татар, расейцаў, французаў, палякаў, немцаў: Менск сёньня амаль зусім новы горад —сталіца, дзе небачна далёкай мінуўшчыны якаяб прыпамінала новаму пакаленьню Беларусаў аб шматвяковай гісторыі нашага народу. Тут усё выглядаіць так, як—бы Беларускі Народ меў усяго 50 год нацыянальнай гісторыі

„Сьвятым" местам, ня толькі гораду Менску але ўсяе Беларусі, ёсьць „Пляц Перамогі" із абеліскам. Бальшавіцкія „бажкі" змушаюць маладых посьле цывільнай жаніцьбы, ісьці сюда на паклонства.

Бязводны, бяз сыравіны, непасрэдна не зьвязаны чыгункамі і шасэ із найбольшымі цэнтрамі Белрусі, індустрыяльна—міліённая сталіца Беларусі пашыраецца на ўсход. Магчыма, што праз Жодзіна і іншыя малыя гарады, якія цяпер разбудоўваюцца,Менск і Барысаў зрастуцца ў адно места гарадоў.




THIS MAP SHOWS HISTORICAL AND PRESENT COMMUNICATION WAYS (EXCEPT AIRLINES) AROUND CAPITOL MIENSK

ГІСТАРЫЧНЫЯ І СУЧАСНЫЯ(ЗА ВЫКЛЮЧЭНЬНЕМ ПАВЕТРАНЫХ) ШЛЯХІ ЗНОСІН, ПРЫБЛІЗНА НА 200 КІЛЁМЭТРАЎ АД ГОРАДУ МЕНСКУ

| | | |
|---|---|---|
| ——— | Чыгункі | *Railroads* |
| ━━━ | Шасэ | *Highways* |
| ——— | Гістарычны сухапутны шлях | *Historical roads* |
| – – – – | Гістарычны водны шлях | *Historical water way Dniapro–Śvislač–Nioman* |

Абеліск на Пляцу „перамогі” за Сьвіслаччу па Ленінскаму праспэкту (быўшая Савецкая вуліца). Гэты кантовы гвозд галоўкай уніз ёсьць помнік расейска—савецкай арміі і яе „партызанам”, што дапамагалі маскоўскім акупантам.

*The „Victory Plaza" was build in memory to russian army and their colaboraitors. Rediculously the Communist party reqiers reverence to this „memorial" from the young couples that just married.*



Ленінскі праспэкт ёсьць прадаўжэньнем воўчай сьцежкі із Крамля (шасэ Менск- Масква на Захад. Частка гэнай вуліцы каля пляцу перамогі”.

*Lenin Blvd. near the „Victory Plaza." The name of this betrayer of 1917 Russian revolution seen all over the country.*



Выгляд ад абеліска на бераг ракі Сьвіслач па Ленінскаму праспекту.

*The general viev on Victory Plaza.*



Ленінскі праспект ад Пляцу „перамогі” за раку Сьвіслач.

*Viev on Lenin Blvd. and vicinity from the end of Victory Plaza, straight accross the Śvislač river.*

Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт. Тут навука ідзець толькі на расейскай мове,за выключэньнем факультэта Беларускай мовы.



*BDU–Byelorussian State Univerity.Here all instructions are going in Russian language, exept inthe department for the study of Byelorussianlanguage.*



Недалёка ад Пляцу „Перамогі", па рацэ Сьвіслач бачна вышка( магчыма радыёстанцыя) і частка гораду. Усегэныя фото былі зроблены ў адным раёне горада, толькі із ронай вышыні і на іншай дыстанцыі.





*This is the opposite side end from the „Victory Plaza." Those pictures were taken from different disstancess and hights*

## FOR POLITICAL ORGANIZATION

It is unbelievable that people in exile are not organized according to their political convictions. It seems that the best way to organize people of the same political convictions and beliefs is through political parties.

It is true that some people do not like parties because of brawls, gossip and accusations between parties or the attitudes of those in parties toward those who are not members. of either party. As we know, the same things happen among nonparty-oriented people. But if society was politically educated, interparty fights would not be as tragic. For example, there are less interparty fights in the USA than there were in Russia or Poland. Countries where the Communist party is in power can not be saudto have 'parties' because there is a dictatorship of one person who rules the party. Stalin and Breznew are not different from Hitler.

Members of the same party don't tolerate wrongdoings of their fellow members. Perhaps a group with ideas was organized into a party with another small group whose ideas did not exactly coincide with theirs. Arguments would result. Such small things can demoralize members and cause a national disaster. Party members, when ideologically perfected, copoerate and make the party act as a single unit, without opposing forces deviding it from within and making the outcome less effective.

Uneducated people in cultural life would only be consumers. By belonging to a party, they are better trained, are always concerned about society as a whole, and understand the political situation better. People not belongi ng to a party are left to a family if they have one, or to alcohol – they become lost people.

In the case of an emergency,it is easier to reach the understanding of members of the same party. Where there is no party understanding, each person must be reached individually, or it is impossible.

Those who are against party organization do not tell what kind of organization it could be replaced with. In exile, a least, a party is irreplaceable.

## *BYELORUSSIAN AND CHINESE MEMBERSHIP IN THE UN*

For a decade, the United Nations was debating the question of China's membership. After the Second World War, there were two Chinese governments: one the on mainland-the Communist government-and the other on the island of Formosa-a former Japanese colony with people of Indonesian origin (Haoshan), to which Chaing-kai-shek and his army retreated to, thereby forming Nationalist China. The Nationalist Chinese were overthrown by the Communists in 1947, who weren't recognized by many Western and pro-Western governments. The Nationalist Chinese government was one of the first governments that participated in San Francisco in 1945 to establish the United Nations and its charter as a world organization.

The question of the legality of the Formosa government represented in the UN arose in the minds of many world governments. Should it be replaced with the Communist government from China's mainland? It was recognized that the best way to control a red giant -Communist China, with a population of 800 million-would be to have representatives from Peking in the UN.

At the end of 1972, the representatives of the Nationalist Chinese government was replaced with the representatives of the Communist government from the mainland. A great but futile effort was made by the United States' government to maintain both governments in the world organization. But during the debate on China, the question of the legality of the Byelorussian and Ukrainian republics' membership was stirred because they are not independent countries.

The failure of the United States' policy on China in the UN resulted in a vendeta by some United States congressmen against Moscow. On November 9, 1971, a republivan congressman, J. Herbert Burke of Florida, with fifty other congressmen of both the republican and democratic parties introduced a resolution in the US Congress that the Byelorussian SSR and the Ukrainian SSR should be expelled from the UN because their independence is fictitious. In December of 1971, a democratic congressman of Wisconsin, Zablocki, introduced another resolution - that the United Staets establish diplomatic relations with both Byelorussian SSR and Ukrainian SSR. The resolution of congressman Zablocki is welcomed by most Byelorussians. It has been due for a long time.

Oneway to attack the roots and camouflage of the Russian Empire which are hiding under the name USSR is through diplomacy and the press. It will have a tremendous moral impact on the Byelorussian people. The body of Byelorussia is im the hands of the Russian National Communists andin the kitchen of the Kremlin butchers who are preparing the meatball (sovietski narod) for the Russians, and the fate of our people is an unnoticeable ingredient.

On one hand, the Russians use the Byelorussians and Ukrainians in the Un as two additional voices. Internationally, to those who do not understand the meaning of the nationalistic Communism of the Russian empire, this is a windowshow that says there is no Kremlin imperialism. Behind the iron curtain our culture is beig destroyed, our economy is exploited, the national and individual spirit is down. Our plight is being oppressed in the same manner as the plight of the Indians on the Arizona resefvations is oppressed.

The exclusion of the Byelorussian SSR and the Ukrainian SSR from the UN would be irreparable damage for Byelorussians. Congressman Burke with his colleagues will cause more pain for our people; people who already had enough suffering because of Western blundering. Morally, Burke helps the Russians. For the Kremlin, it would cost only two voices in the UN. The Kremlin has a veto voice in the UN which is more important. The Byelorussian membership in the UN is important to Byelorussians and the Free World; important for many historical events in the future, turmoils, wars, revolutions, coups that would take place on our territory or on the territory of our present occupiers, or possibly will be used against those who are planning to conquer us in the future.

The membership of the Byelorussian SSR in the UN could be a great political ball in the hands of the United States. Unfortunately it is not used; congressman Buke is even misusing it by this time.

There is no doubt that the Byelorussian SSR indeoendence is fictitious. What about other countries' independence? All former English colonies are not completely independent, especially economically; besides, they are oppressing other nationalities in former colonies

that were left by the British as their chosen guazdians.

Moscow realizes the move by US congressman Zablocki and is preparing for a fight. This year, in the Byelorussian capital, Miensk, two consulates were established - one with Poland and one with East Germany. More consulates with other Communist nations my be added to show that Byelorussian SSR is independent and has connections with the outside world.

We hope that congressman Burke with his colleagues will help congressman Zablocki and at the same time, help our people to be freed from Moscow's slavery.

## НАВІНЫ, АГЛЯД ПРЭСЫ - КАМЭНТАРЫ

БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛЯПЭДЫЯ . Выйшлі 3 і4 томы на літары В, як канец із другога тому, на Г. Д, Е, Ж, З.

Шукаем пад словам гарадзішчы на Беларусі, дый хутка пераконваемся, што партыя і ўрад перавыканалі заданьне на гістарычным полі Беларусі.

Слова „Веча" тлумачыцца так. „( ад стараж.-рус. вешаць-гаварыць), народны сход на Русі, які зьбіраўся для абмеркавання і вырашэння дзяржаўных і грамадзкіх спраў.Паходзіць ад племянных сходаў славян."

Рэд. заўвага. Зусім магчыма, што слова веча паходзіць ад часу дня г. зн. спатканьне вечарам. У той час слова вечар нямела канчатка АР. Абгаварваньне грамадзкіх спраў на Беларусі і пасёньня адбываецца посьле працы вечарам.

ПРЫЯЦЕЛІ ЦІ ВОРАГІ? Пад такім загалоўкам сп. Галяк разаслаў артыкул беларускім часопісам і газэтам Найлепш было пасладь украінскай газэце „Свобода",так як зьмест артыкула адпавядае датых хто праводзіць гэную „прыяцельскую" палітыку.

Вельмі рэдка суседзі бываюць прыяцелямі. Барацьба за тэрытрыю ёсьць асноўны віноўнік міждзяржаўных непаразуменьняў. Украінскія прэтэнзіі да Беларускага Палесься ад Бранска пад Жлобін, Старобін, Беласток ёсьць прычынай чаму многія іх палітыкі ўжо цяпер заводзяць палітычную гульню із Лятувісамі. Бо знаюць, што Лятувісы маюць тэрыторыяльны апэтыт да Панямоньня аж пад самы Менск.

Калі Брэст-Літоўская ўмова падчас Першай Сьветавой Вайны не правяла свае пляны на нашых землях, то ў подобных абставінах будучыні можыць аджыць тая самая формула пагадненьня паміж нашымі суседзямі ўадносінах да нашае Бацькаўшчыны. г.зн. Беларусь будзіць разьдзелена паміж Украінай, Расеяй, Польшчай і Лятувай. Многія нашыя палітыкі занадта пэўныя, што будучы лёс Беларусі будзіць адналькавы для ўсіх падсавецкіх народаў. Можа і так,але найгоршае мы мусім прадбачыць і быць гатовымі спаткаць,магчыма найгоршы дзень у нашай будучай гісторыі. Беларуская прэса занадта многа і залішняе пераконвае беларускага чытача, што Беларусы і Украінцы навекі вечныя прыяцелі. Прыватна палітыкі эміг-

ранцкай БНР сваё „непредрешенство“ тлумачыць тым , што ў будучыні будзіць лягчэй дамовіцца із расейцамі, як із украінцамі і палякамі. Сучасная гісторыя нас вучыць, што пакінуць учарашняга прыяцеля ў бядзе дый зрабіць умову із ворагам, радзі собскіх нацыянальных выгад, ёсьць „норма” міжнароднай палітыкі.

Трэба памятаць, што за намі сочуць экспэрты іншых народаў і нашыя недастаткі разумеюць: маўчаньнем мы не схаваем тое, што нам не падабаецца.



✝6 Сакавіка 1972 года, у ЗША Форт Вэйн штат Індыяна, на 84 гаду жыцьця, адыйшоў на вечны супакой, наш дарагі муж, бацька, дзед Саўка Маркоўскі

У жалобе: жонка, дзеці, унукі.

Пакойны быў народжаны ў вёсцы Дулебы, Ігуменскага ўезда, Менскай губерні

✝ВОЙТАНКА ВІКТАР–доктар мэдыцыны, сьвятар, грамадзкі дзеяч. Памёр 25 красавіка 1972 года ад сардэчнага прыпадка, пры працы ў манастыры „Мір”, штат Ню Джэрсі ЗША.

Пакойны быў ініцыятар і арганізатар (на вялікі жаль) групавой БАПЦ. У апошнія гады свайго жыцьця выдаў Беларускі Малітоўнік. Вельмі прыемна было быць на богаслужбе якую ён служыў па беларускі. Быў адным із тых, што перашкаджалі аб'еднаньню беларускіх групавых праваслаўных цэркваў. Індывідуальна ён заснаваў манастыр „Мір” які быў ігнараваны праз япіск. БАПЦ. Выдаваў ратата͡рам вайскова–палітычны часапіс „Змагар”

Гумар, падбадзёрваньне жылі дзень і ноч у душы Сьвятое памяці сьвятара, доктара Войтанкі.

## З ЛІСТОЎ У РЭДАКЦЫЮ

### ДА ПАРТЫІ

Прыемна нам было прачытаць у №1(15) артыкул „Да палітычнае арганізацыі”. Значыцца, не адзін я пра яе думаў; вельмі добра, што нашы людзі рупяцца пра гэта. Як хлеб штадзённы нам патрэбна партыя. Я сусім згаджаюся з довадамі за партыю, што прывёў Рупатлівы ў выным артыкуле. Як ёсьць партыя, дык ёсьць ужо каля каго лучыцца. Кажуць, што падчас рэвалюцыі 1917 г.

там, дзе быў хоць адзін сябра Беларускай Сацыялістычнай Грамады, там да яго зьбіраліся сотні.

Бяз партыі мы будзем памалу расплывацца хто куды, засынаць грамадзка а наша нацыянальная грамада будзе распадацца, каб пры новым палажэньню пачынаць спачатку, нанава арганізавацца, потым ізноў чэзьці і гэтак далей. Нам патрэбная арганізацыя трывалкая ды такая, на каторую можна было-б даверыць. Нават нячысьленная, але моцная партыя, важнейшая за дзесяткі грамадзкіх арганізацыяў, дзе сябры, апрача мізэрнай сяброўскай складкі, да нічога не абавязаны і 95 працэнтаў зі іх нічога ня робяць дзеля свайго народа. Малая партыя больш зробіць дзеля народа свайго за шмат тысячаў бязьдзейных неарганізаваных. Цяперака ёсьць у нас шмат справаў, пра каторыя ніхто нядбае яны ляжаць дзірваном, бо дзейныя сябры нашых арганізацыяў рупяцца тольki пра ввае арганізацыі, а бывае і так, што кіраўнікі арганізацыяў робяць блізу толькі тое, што ім асабіста карысна. Партыя-ж наша мела-б наўвеце ўсе патрэбы нашае эміграцыі і нашага народу, як гэта ёсьць у партыяў іншых нацыянальных груп.

Як будзе партыя, то й дзейнасьць грамадзкіх і культурных арганізацыяў пажвавее, павея ў іх сьвежы дух, бо будзе дзеіць прыклад партыі і партыйныя сябры, да арганізацыяў уходзячыя.

Чакаем праграмы партыі, каб пазнаёміўшыся зь ёю, запісацца да партыі.

Р. Дольні

20-га травеня, 1972 г.

Дарагі Брат Пётра:

З апошняга нумару бачу што пасьля шатаньня прыняў правільнае рашэньне. Царкву сваю незалежную мусіш сарганізаваць.

Унівэрсытэт народаў Амэрыкі перабярае 7000 акраў між Атлянтык Сыті і Філядэльфіяй.

Пабудаваць кампус плян зроблены на тры гады. Калі Бог падабраславіць то будзем суседзямі.

У Богу і Народзе,

+ Архіепіскап Уладыслаў.

АБ МІТАХ

У адным зартыкулаў аўтарства Ст. Станкевіча, з нагоды сьмерці Міколы Абрамчыка, зьмешчаным у газэце „Беларус” было падана, што М. Абрамчык вельмі многа зрабіў, каб разьбіць міт аб супрацоўніцтве Беларусаў з Немцамі у часе II вайны.

Праўдаю ёсьць, што ў радзе выпадкаў, інтэрвэнцыя М. Абрамчыка прычынілася да таго што занадта лёяльна адданыя сваім савецкім саюзьнікам, урадаўцы заходняй саюзнай акупацыйнай адміністрацыі Нямеччыны, ці то урадаўцы вызваленых заходніх краінаў, як напр. Даніі, адступалі ад намераў прымусовай рэпатрыяцыі, пасьля таго, як Абрамчыку з вялікімі труднасьцямі удавалася вытлумачыць, што Рашэны ёсьць рожных колераў, а Беларашэны гэта наагул не Рашэны.

У гэтым абсягу дзейнасьці М. Абрамчыку належыцца падзяка за добра выкананы абавязак у цяжкіх умовах пасьляваеннай разрухі. Для паўнаты абразу трэба аднак зазначыць, што па першае М. Абрамчык ня быў адзіным, які працаваў у гэтым кірунку, а па другое трэба зазначыць, што праца праробленая М. Абрамчыкам праводзілася не пад фірмаю БНР, а пад фірмаю францускага прафэсыйнага саюзу і такім чынам можа быць запісаная на пэрсанальны рахунак Абрамчыка, а не Рады БНР.

Пераходжаньне аднак ад фактычнай карыснай працы праробленай Абрамчыкам, да цьверджаньня С. Станкевіча, што Абрамчык разьбіваў міт аб супрацоўніцтве зь немцамі, змушае сказаць, што калі Абрамчык запраўды займаўся разьбіваньнем мітаў, дык рабіў шкодную работу.

Будучы вызнаўцам і пасьлядоўнікам пазьнейшых прыгодаў Абрамчыка, С. Станкевіч зрабіў-бы лепш для Беларусоў і памяці М. Абрамчыка, каб гэтага аспэкту дзейнасьці М. Абрамчыка не успамінаў і не хваліў.

Разьбіваньне такіх мітаў ёсьць шкоднае і яшчэ калі можна знайсьці апраўданьне для дзейнасьці М. Абрамчыка у бясасярэдны пасьляваенны пэрыёд, дык сягоньня такія цьверджаньні трэба трактаваць, як паклёп на Беларусоў. Дзеля чаго? А вось дзеля чаго–.

Супрацоўніцтва з акупацыйнымі уладамі ёсьць згоднае з міжнародным правам і такое супрацоўніцтва было, бяз вынятку, у усіх краінах акупаваных Немцамі. У некаторых краінах, як напр. у Польшчы ці Югаславіі побач з супрацоўніцтвам з акупантамі існавалі групы якія з акупантам не супрацоўнічылі, але зразумелая рэч гэтае несупрацоўніцтва магло адбывацца толькі ў лесе ці падпольлі. Цэлая аднак сымпатыя да несупрацоўнічуючых групаў ня можа аднак зьмяніць факту, што супрацоўніцтва з акупантам было праўным.

Трэба таксама зазначыць, што для тых Беларусаў, што стаяць на грунце 25 Сакавіка, ня толькі падчас акадэміі з нагоды гэнай гадавіны, але стараюцца кіравацца ідэяй 25 Сакавіка і іншыя 364 дні( у пераступны год 365), нямецкая акупацыя была усягo толькі зьменаю акупантаў з расейскага на нямецкага і было-б дзіўна спадзявацца лаяльнасьці да найгоршага з акупантау расейскага, бо для Беларусоў карысная зьмена акупантаў і найгоршае палажэньне вытвараецца тады, калі нейкі акупант засядзіцца задоўга.

Калі гаварыць аб фактычным стане, дык запраўды супрацоўніцтва зь Немцамі было многа менш, чым у іншых краінах, але гэта дзеля прычыны ад Беларусоў не залежных, дзеля таго, што на Беларусі Немцы хацелі трымаць усё у руках бяспасярэдна, хаця ахвотнікаў ня толькі да мінімальнага жыцьцёва неабходнага супрацоўніцтва, але таксама і да бязгранічнага супрацоўніцтва, было больш чым трэба,

Разьбіваньне мітаў" шкоднае таму, што павінна выклікаць у іншых народаў –нашых суседзяў, думкі варожыя да Беларусоў: адны могуць сказаць, што відаць Беларусы ёсьць лепшыя ад нас, бо мы з акупантамі супрацоўнічалі, а яны не, а агульна ведама што ніхто ня любіць лепшых ад сябе, другія могуць выцягнуць з гэтага іншы выснаў, – таксама для нас не карысны, –відаць Немцам ня было з кім супрацоўнічаць,бо Беларусы, выглядае найбольш дбаюць не аб дабро свайго народу,а толькі аб сваю нявіннасьць і ёсьць лёяльныя да папярэдняга акупанта, так што і у будучыні зь імі ня трэба лічыцца.

Дапусьцім аднак, што Беларусы насуперак фактам, здароваму розуму, у адрожненьні ад іншых народаў з Немцамі не супрацоўнічылі. Які-ж тады паўстае абраз?

С. Станкевіч нічога не успамінае аб тым, ці Беларусы не супрацоўнічаючы зь немцамі, супрацоўнічалі з іншымі удзельнікамі вайны–нашымі суседзямі палякамі і расейцамі. Выглядае, паводле С. Станкевіча (мяне таксама), што такога супрацоўніцтва таксама ня было. Такое супрацоўніцтва, пазбаўленае прымусовага характару, як у выпадку нямецкага акупанта, было-б супрацоўніцтвам дзеля аднаўленьня папярэдніх (польска-расейскіх) акупацыяў.

Чым-жа паводле С.Станкевіча займаліся Беларусы ў часе вайны? Сядзелі забіўшыся ў кусты, гналі самагон, ды чакалі на вынік змаганьня, чакалі хто пераможа, каб пасьля выкляраваньня палажэньня, прымільна віляць хвастом перад пераможцаю? Узапраўднасьці так блага ня было і такім чынам разьбіваньне „мітаў" ёсьць паклёпам на Беларусаў.

Наагул мне няясна адно: пашто нехта лічыць патрэбным тлумачыцца ў сваей нявіннасьці. Мне здаецца, што адзіным годным чалавек і сябры нацыі, хаця і акупаванай, ёсьць такі: Беларусы не патрабуюць тлумачыцца ў сваей нявіннасьці

з кім яны супрацоўнічалі, бо гэта іхняе права супрацоўнічаць з тым, з кім яны у даны момант лічаць патрэбным супрацоўнічаць і маюць намер паступаць так і ў будучыні, незалежна ад таго як будуць глядзець іншыя. Каб аднак адказаць так, дык трэба перад гэтым дайсьці да „сьмелай” думкі, што Беларусы маюць такія самыя правы, як іншыя народы, а ў стараньнях разьбіваньня „мітаў” ёсьць паклёпам на Беларусоў.

У СССР Расейцы робяць усё магчымае, каб прадставіць Беларусоў у, як мага, прымітыўным сьвятле. Тэматыка беларускіх пісьменьнікаў сьведама зводзіцца з малымі вынятками да праблемаў калхозных брыгадзіраў і сьвінарак, хаця паводле іхных жа статыстыкаў амаль палова насельніцтва БССР жыве ў гарадох. Расейцы ў Савецкім Саюзе сьведама стараюцца вытварыць уражаньне, што Беларусоў стоячых панад роўняў калхозных заінтэрасаваньняў няма, незалежна ад таго дзе яны жывуць у калхозе ці месьце, тут-жа у газэце „Беларус” прапагуюцца думкі, што Беларусы ніколі, нічога ды ніякага...

Хоць паводле „Беларуса” Абрамчык разьбіваў „міты”, аднак адначасова стварыў міт, што ў Беларусоў былі Квісьлінгі. Калі назоў квісьлінг ужываць толькі, як лаянку у адносінах да палітычных праціўнікаў, дык можна і гэтак але калі стаць на становішчы, што слова Квісьлінг ужыванае у адносінах да іншых Беларусоў ёсьць толькі лаянкай. Магчыма, што ў рожных слоўніках можна знайсьці рожныя азначэньні гэтага паняцьця але мне здаецца што самай характэрнай азнакай квісьлінгоўства ёсьць супрацоўніцтва з ворагам супроць свайго праўнага ураду, пакольк-ж праўнага для Беларусоў, беларускага ураду у той час не існавала, дык нават, каб нехта вельмі хацеў стацца Квісьлінгам, дык для яго гэта было-б немагчымым. З гэтага можна зрабіць той выснаў, калі нехта называе іншага Беларуса Квісьлінгам, дык гэта значыць, што даная асоба урад аднаго з акупантаў прызнае праўным урадам Беларусоў. Трэцяе магчымасьці тут няма.

Хаця тэхнічна немагчыма для Беларуса зрабіцца Квісьлінгам' гэта ня значыць, што ня былі заіснаваўшыя фактычныя станы, якія пры існаваньні праўнага ураду маглі-б называцца квісьлінгоўствам, але прасьцей назваць іх іхнымі уласьцівымі іменьнямі

Няма хіба сумліваў, што дзейнасьць Гуцько, які хацеў устанаўляць „ нерушимое едйнство всех народов Россйй” і усіх тых хто яго падтрымлівалі, была шкоднай для Беларусоў, хаця-б таму, што прыяжджалі з ультыматумамі да БЦР, каб тыя уключыліся у уласаўскаю афэру дзея ляліна шкоду Беларусоў. Няма хіба сумліваў, што епіскапы йз Белоруссйй” што прызнавалі Божае благаславенства на уласаўскі камітэт, найважнейшай мэтай якога было захаваць паняволеньне усіх народаў, што пражываюць у СССР пад расейскім ярмом. Асуджаючы аднак епіскапаў нельга прамінуць таксама тых, хто іх у той час падтрымлівалі і да сягоньня

ня спынілі лучнасьці з імі.

Няма хіба сумліву, што сёньнешнія духовыя спадкаемцы уласаўцаў, якія хочуць,як калісь уласаўцы пературарыць змаганьне беларускага народа супроць расейскай акупацыі у змаганьне толькі супроць аднае расейскае партыі—дзеюць супроць інтэрэсаў беларускага народу. Некаторыя чаловыя удзельнікі Рады БНР ёсьць ня толькі духовымі спадкаемцамі уласаўшчыны, але із сваей собскай ініцыятывы дзеялі і дзеюць на шкоду Беларусоў. Асоба, што выступала з дамаганьнямі да БЦР аб далучэньні да ўласаўшчыны, пры першай нагодзе некалькі гадоў пазьней шкодзіла Беларусом падпісываючы прарасейскую дэклярацыю у Вісбадэне а ўжо зусім нядаўна заклікала да асміляцыі.

В.Мікалаеня

*ЗАЎВАГІ да артыкула „Аб Мітах" У Вольным Сьвеце слова квісьлінгоўства ў слоўніках абазначаіць, як супрацоўніцтва із акупантам супроць свайго народа а не праўнага ўрада. Пагэтаму мы павінны яго ўжываць так, як ужываюць тыя краіны дзе гэтае слова нарадзілася. Непатрэбна вытлумачваць слова інакш, пасвоему тады нябудзіць тэхнічных перашкод.*

*Савецкая Украінская Энцыклялпэдыя тлумачыць слова квісьлінг, як сынонім слова здраднік. Здрадзіць можна жонцы, сябру альбо групе сяброў але квісьлінгоўцам быць гэта што іншае. Бальшавікі не жадаюць каб іншыя народы Савецкай імпэрыі разумелі сапраўдны сэнс слова квісьлінг. Чаму Мікалаеня хочыць інакш вытлумачыць ёсьць зусім незразумела.*

*Знаньне міжнародных законаў, хто іх падпісваў а хто не, як міжнародныя і іншыя заабавязкі выконваюць тыя, хто гэтыя законы падпісваў ёсьць вельмі важна знаць народу пад акупацыяй. Нацыя пад акупацыяй, альбо і мы на эміграцыі можым быць змушаны тлумачыцца перад тым, хто маіць над намі ўладу, пагэтаму мы заўсёды павінны быць гатовы на добры і разумны адказ.*

*У ваенны і міжваенны пэрыяд наш народ павінен умець валодаць зброяй міжнародных законаў, разумець палітычнае гайканьне акупантаў, інакш намі завалодаіць правіла хатняй жывёлы.*

*Рэдактар „Веча"*

# БЕЛАРУСКАЯ ПЕСЬНЯ

Пра беларускую народную песьню так шмат пісалася і гаварылася, што мне амаль нічога няма дабавіць да гэтага. Мне толькі хочацца адзначыць асобае значэньне яе для нас, беларускіх эмігрантаў' – –бо-ж гэта адно із таго нешматлікага, што засталося для нас тут ад нашай радзімы.

Для нас наша песьня-кавалачак нашага быцьця, нашай душы. Утраціўшы гэты кавалачак, мы ўтрачваем нашае нацыянальнае абліччa.

Мне вельмі падабаліся словы. А. Даніловіча на адчыненьні канцэрта "Каліны„ 11 чэрвеня г. г.: "Беларуская песьня жыве з намі ад моманту нашага нараджэньня ўсе жыцьце да самай нашай сьмерці, пачынаючы ад „Калыханкі і канчаючы Запалачкамі" Так было, так есьць і, я веру, так будзе там, на той зямлі, якую нам давялося пакінуць.

Музыка ўсіх славянскіх народаў наагул найболей выразная, эмацыянальная і псыхалягічна глыбокая Гэтага не адмаўляюць музыкаведы ўсяго сьвету.

І гэта, перш за ўсе, адносіцца да беларускай музыкі. Гэта стымулявана ня гэтулькі гістарычнымі, колькі прыроднымі ўмовамі нашага краю.

Хто ня згодзіцца, што клімат і прыродныя ўмовы Беларусі самыя ідэяльныя ва ўсей Эўропе (а, магчыма, і ў цэлым сьвеце) для разьвіцьця найлепшых чалавечых якасьцяў?

На самай справе, які другі народ у сьвеце гэтакі шчыры, адзыўчывы, сардэчны, непасрэдны, здольны да праяўленьня талентаў, як наш, беларускі?

А. П. Чэхаў сказаў словамі сваёй гэраіні Соні (Дядя Ваня):
"Леса украшают человека. Оңи учат человека понимать прекрасное и внушают ему величавое настроение. Леса смегчают суровый климат. В странах, где мягкий климат, меньше тратится сил на борьбу с природой и потому там мягче и нежнее человек, там люди красивы, гибки, легко возбудимы, речь их изящна, движения грациозны. у них процветают науки и искусства, философия их не мрачна..."

Да якога краю і якому народу перш за ўсе падходзяць гэтыя словы?
І ня выпадкова нашы народныя мэлёдыі натхнялі ў мінулым і працягваюць натхняць цяпер вялікіх кампазытараў–Мусоргскага, Глінку, Шастаковіча і нават не славяніна гэніяльнага Бэтховена.

А мы тут ужо забываем гэтыя назапашаныя вякамі нашым народам духоўныя каштоўнасьці. Мы прыбліжаемся да крызісу, у якім рашчыняецца нашая нацыянальная сутнасьць.

Успомнім нашыя першыя гады жыцьця ў Амэрыцы.
Гэта былі цяжкія гады барацьбы за існаваньне, але мы былі моцныя духоўна.

Я ня маю дастатковa дадзеных пра культурнае жыцьцё беларусаў у другіх частках Амэрыкі. Беларуская-ж прэса заўсёды выдзяляла культурнае жыцьцё Саўт–Рывера

Таму я і буду гаварыць перш за ўсе аб Саўт-Рыверы.
Амаль адразу пасьля прыезду нашых людзей у Амэрыку у 1950–51 гадох па ініцыятыве выдатнага артыста В. А. Сэлях–Качанскага быў арганізаваны першы ў Амэрыцы беларускі мяшаны хор, сьціплы хор бяз спэцыяльнага тытулу (Бярозка, Шыпшына), у якім ён і ня меў патрэбы. Праграмы складаліся з народных і часткова з патрыятычных песьняў сучасных беларускіх кампазытараў з перавагаю эмігрантаў.

Качанскі па стану здароўя і ўзросту адыйшоў у скорасьці на адпачынак. Хор дастаўся мне, аўтару гэтых радкоў і былому акампаніятару хора.

Я ні ў якай ступені не хачу параўноўваць сваіх заслуг і свайго досьледу з тымі-ж

якасьцямі артыста. Хор быў яго тварэньнем, яго дзецішчам. Я толькі стараўся працягваць яго традыцыі з дадаткам твораў беларусаў-клясыкаў (Глінка, Равенскі).

Пасьля паўдзясятка гадоў пладатворнай працы (працавалі ўсе ахвотна) і асабліва пасьля выпуску некалькіх кружэлак, хор апраўдаў сябе. Намі пачалі цікавіцца нятолькі ўсе беларусы на эміграцыі, але нават другія нацыянальнасьці. Канцэрт на міжнароднай выстаўцы ў Нью Йорку. Мы нават чулі сябе ў радыё.

Мы ня дрэнна ўжываліся ў той час з арганізованым па ініцыятыве К. П. Барысаўца жаночым хорам „Каліна." Мы ня перашкаджалі адзін аднаму і часта давалі нашы супольныя праграмы.

Дзякуючы энэргіі кіраўніка „Каліны", у хор было прыцягнута шмат новых сьпевакоў, якія ня ўдзельнічылі мяшаным хоры, і гэта памагло не распыльваць нашы сілы.

Але хутка выбухнула нечаканая катастрофа.
Па неразумнай, а, магчыма, і наўмыснай „ідэі" аднаго--двух сяброў нашага хору была „арганізована „мужчынская капэля. Разьлік быў правельны–мяшаны хор быў развален.

Мужчыны–сьпевакі, усе галовы сем'яў, якія працавалі на хлеб надзённы (да тагож мы ўсе старэем), не маглі знайсьці часу для трох хораў. Так, трох.

Царкоўны хор–самы важны для нас (якім я кірую ужо 20 гадоў), павінен быў працягваць сваё існаваньне. Мужчынскія галасы заўсёды былі ў нас у недастатку, і тады, з арганізаваньнем „Капэлы", іх зусім мала засталося для мяшанага хору. І ён спыніў сваё існаваньне ў мамэнт найбольшага прагрэсу.

Як–жа „прагрэсіравала" капэла? Запал хутка астыў. Для пераліку выступаў „капэлы" хопіць пальцаў аднэй рукі. Цяпер 6–8 чалавек выступаюць адзін раз у год у Дзень Слуцкага паўстаньня із сваім нязьменным „Сьпі пад курганам."

Якасьць? Што можна гаварыць пра якасьць музыкі пры наяўнасьці самых зялёных уяўленьнях аб музыцы наагул і аб гарманізацыі ў прыватнасьці, калі ў любой песьні ўпатрабляюцца толькі тры гарманічныя ступені ды і то няпісьменна. А дзе-ж астатнія чатыры асноўныя ступені?–Асьмеліўся я якась спытаць у аднаго такога „кампазытара." „Я іх ненавіджу."–Быў адказ. Замест я іх ня ведаю.

Беларуская песьня мае свае, ёй уласьцівыя, асаблівасьці: натуральны гукарад, вырашэньне чацьвёртай ступені ў першую ў кадэнцыях і г. д. Іх трэба ведаць перад тым, як стварыць музыку.

Даводзіцца чырванець ад сораму, калі чуеш, што некаторыя нашы паважаныя інтэлегенты прышпільваюць вялікае слова кампазытар да асобы, якая напісала пару няпісьменных песьняў. Ну, што-ж ... За адсутнасьцю гэрбавой...

Перавярніся яшчэ раз у труне, Глінка. Бывайце, добрыя начынаньні. Крылоўская сьвіньня парылася пад дубам.

*

* *

Нядаўна я меў задавальненьне пачуць некалькі сапраўдных беларускіх песьняў на канцэрце „Каліны". Шкода толькі, што іх было мала. У другіх частках праграмы беларуская песьня наўрад ці начавала, затое пераможна парыў дух нябожчыка Ісаака Дунаеўскага (вядомага абкрадваньнем вялікіх кампазытараў і ўжо амаль забытага ў Савецкім Саюзе.)

. Каб ня быць галаслоўным, прывяду адзін прыклад. Сп–ня Петыш вельмі прыгожа пяяла „Мой каханы, даражэнькі, пасядзім 'шчэ трошкі'„ а мне ў вушы, як на зло, лезе даўно набіўшае аскоміну: "Ведне даром столько песень про любовь поется." Рытм той-жа, мэлёдыя амаль тая самая.

Сорамна абманьваць бедных слухачоў, асабліва моладзь, пераконваючы яе ў „сходстве гвоздя с панихидой." Гэта маўляў, і ёсьць беларуская песьня.

Другая бяда–прымітывізм. Безпадстаўная сьцідка на аматарства–рух па лініі найменьшага супрацiву. Прафэсыяналы звычайна вырастаюць із здольных і працавітых любіцеляў. Для чаго 50, ці болей песьняў у рэпэртуары? Папрацуйце прылежна і навучэцеся 25 болей цяжкіх, але прыгожых беларускіх песьняў. „Каліна" гэта зможа. Кіраўнік хору (няхай ня гневаіцца за праўду), які мае не малыя здольнасьці і любіць дысцыпліну, пасьпяхова можа ачысьціць ад „прымітывізму" і „дунаеўшчыны" хор.

Дысцыпліна ў хоры добрая, тэхніка выкананьня зусім ня дрэнная (добра, што я рэдка слухаю „Каліну", пагэтаму магу заўважыць прагрэс). Адна добрая „Каліна" усёткі лепш чым нічога. Але агульнае становішча астаецца жалюгодным.

Тое, што было разьбіта не бяз удзелу зласьлівячых „палітыканаў, "не сабраць ужо па кавалках. Час прайшоў, людзі пастарэлі, дух дзейнасьці ўпаў. Моладзь вельмі „замэрыканізавалася" і не зацікаўлена ў захаваньні бацькоўскіх і дзедаўскіх каштоўнасьцяў. Новага прыплыву эмігрантаў не прадбачыцца. Каб ураттаваць становішча, трэба прыліў сьвежых сіл

Дзімітры Верасаў

## *БЕЛАРУСКІ ПРАМЭТЭЙ*

Імя Прамэтэя ведамае ва ўсім культурным сьвеце эўрапейскае цывілізацыі, як сымболь вялікае ахвярнасьці ў любові яго боскага сэрца да людзей на зямлі церпячых і немаючых пры сабе божае іскры-агня, які так патрэбны ў жыцьці чалавека. Вось-жа, гэты алімпійскі бог, рашыўся з утратай свайго жыцьця, выкрасьці ў свайго грамавіка–бацькі Зэўса хаця маленькую іскру з цёплага Алімпу і занясьці яе людзям на халодную зямлю каб яны пры гэтым зьнічу-цяпла маглі сагрэцца целам і душой, бо–ж сонца штопраўда агравае зямлю, але ў жыцьцёвых патрэбах чалавека не ёсьць так практычным як фізычны агонь у практыцы штодзённага запатрабаваньня яго пры ўсіх патрэбах чалавека, якім мы сягоньня ім карыстаемся.

Такі сьмелы паступак каштаваў Прамэтэю не толькі выгнаньням яго з алімпійскага–неба але прыкаваньням яго ланцугамі да зямлі на вечныя часы, да таго на безабароннага Прамэтэя, Зэўс наслаў мясажэрныхптушак, якія клявалі яго ў грудзі каб дастаць яго сэрца, якое так было добрым для людзей, што зьлітавалася над людзьмі і дало ім агонь.

Штопраўда гэта толькі легенда згрэцкай міталёгіі. Але вельмі і вельмі шмат значная, якой людзі карыстаюцца для прыкладу вялікага геройства, этыкі і маральнага павучэньня а часта і ў палітычных справах.

Вось і я хачу яго паступак і некаторыя якасьці яго добрага сэрца прыраўняць да жыцьця і дзейнасьці нашага незабытнага, слаўнай памяці доктара, сьвятара, дзеяча і вялікага патрыёта, нашых часоў, Беларускага Прамэтэя–Віктара С. Войтанкі, які нажаль, адышоў ад нас да нябеснага Алімпу незакончыўшы сваю місію паміж нас упаўшы целам ў створаным Алімпе–„Міры", ня менш сымбалічным, як той грэцкі Алімп, дзе хацеў задзіночыць усе ідэі нашага жыцьця на эміграцыі для бу-

дучай Вольнай Беларусі. Аб гэтай акцыі ён ужо прапагаваў у ведамым нам усім „Змагары” і 1972 г. меў быць тым пачаткам заснаваньня лігі абяднаньня Беларусаў пры сымбалічным Беларускім моры-возера ў Міры. Штопраўда не вогненнага зніча, але халоднае вады, але ў значаньні прамэтэйскага паступку роўназначнае ідэі даць Беларусам новы стымул у імкненьні да дзяржаўнае самастойнасьці каб Беларусь у будучыні мела доступ да мора ад якога так мала аддзяляя ее адлегласьць некалі захопленая непрыязнымі суседзямі.

Разглядаючы жыцьцё др. Войтанкі, у ім можна больш чаго знайсьці, як той прамэтэйскай ахвярнасьці з агнём , бо др. Войтанка насіў у сабе больш ідэяў аб якіх нам ведама з яго прафэсыйных заняткаў доктара і сьвятара, культурнага і палітычнага дзеяча, а перадусім беларускага патрыёта Наваградзкай зямлі і усяе Беларусі. Аб ім можна напісаць не адзін том кніжак хаця і не доўга жыў бо толькі 59 гадоў. Тады гэтыя як ведама ад 1912 г. ў якім ён радзіўся былі вельмі бураломныя 20 веку, якія і яго захапілі ў свой круг дзейнасьці аб чым ён і на эміграцыі не забыўся.

Чалавек непасьрэдных здольнасьцяў і навукі. Яшчэ студэнтам у Вільні праяўляў сваю дзейнасьць і рух да вышэйшых ідэалаў, які некалі жыла Вільня акупаваная ў яго час здрадлівым саюзьнікам. Амаль-што нестаўся паэтам бо вельмі захапляўся паэзіяй А. Міцкевіча, свайго Наваградзкага зямляка. Хваліў вялікасьць кн Вітаўта, студыяваў адраджэнскі рух К. Каліноўскага і прадаўжаў на шаніўскі час, і вельмі шкадаваў чаму ў ЙЦЙШ г. несталася Вільня зноў сталіцай Беларускай Дзяржавы хай і Літ-Белу. А як ён цікавіўся нашым народам над Нёманам. У студэнскія часы, як прыежджаў на вакацыі пехатой хадзіў на Сьвіцезь хаця і меў самакат бо вельмі яму падабалася ісьці польнымі дарожкамі паміж доўгіх палосак поля засеяных збожам і ярыной. Так сталася, што зазнаёміўся і жаніўся на студэнцы Марыі із гістарычнага Міра што яшчэ больш спалучыла яго з Наваградчынай хаця бацьку яго сьвятара кансісторыя перамешчала нераз у іншыя мясцовасьці зах. Беларусі род якога вывяўся з над Бугу.

Запазнаўся я з ім у 1934 годзе ў Слоніме хаця бачыў яго студэнтам яшчэ ў Вільні. Быў маім амаль равесьнікам толькі іншае катэгорыі чалавекам. Я быў сынам беднага бацькі, ён багатага. Ен з унівэрсытэцкай адукацыяй,я ледзьве сярэднюю здабыў. Але, як ішлі нашыя шляхі жыцьця– зыйшліся яны ў апошнія гады яго да супольнага мяноўніка, што нават ідэялёгічна нічым мы не розніліся. „Змагар” быў нашай супольнай трыбунай дзе мы маглі прамаўляць да родных нам Беларусаў. Нераз я быў у тым Прамэтэйскім „Міры” дзе плянавалася на ўзор Б-- Менску сарганізаваць„Малую Беларусь”. І вось нелюдзкі Зэвс стралой Пасэйдона неякага Нэрона стрэліў у яго добрае сэрца кідаючы яго на зямлю ў тым ім створаным„Міры”, вялікіх ідэяў сначаючы яго памяць на векі з ім як тога мітычнага Прамэтэя з Каўказам даўнейшай мітэлёгіі.

Ці захаваецца „Мір” для нашае далейшае гісторыі на эміграцыі? Гэта вялікае пытаньне. А спамінаючы мінулы час–ён і ў маім жыцьці закончыўся зацьменьнем хаця і жывы яшчэ я. Штопраўда сьвеціць яшчэ сонца і шмат яшчэ жыве Беларусаў але ўсё не тое чым я быў спалучаны з дарагім Віктарам Войтанкам, якога заўсёды называў доктарам ад таго часу як ён вылечыў з хваробы яшчэ ў Слоніме. Быў ён лекарам і мае душы як пасьвяціўся ў сьвятары для БАПЦарквы. Парахвія Жы-

ровіцкае Божае Маці ў Гайландпарку–наша супольная ініцыятыва бо яго сям'я да мяне прыехала ў Ню Брансвік, як я быў у ЗША. І каб Богдаў нам даўжэйшае жыцьцё–маглі-б мы зрабіць шмат чаго больш прыгожага. Але ўсё мае свой канец. І ўся бяда ў спаткаемцах, якіх у мяне іх няма.

Таму маючы нагоду ўспамянуць усё гэта ў друку падаю для яго добрае памяці ці гэтую запісь ,як маё разьвітаньне і буду шчасьлівы, як я лягу на тых самых могілках бо і сюды ён мяне запрашае хаця за 20 гадоў у Амэрыцы жыў я ў Канадзе, Чыкага, Кліўляндзе дзе было шмат добрых Беларусаў, але такіх дзейных..

Слава і чэсьць Табе мой не забыўны доктар, сьвятар і прыяцель з нашае супольнае Беларусі.

А. А. Асіпчык

## БЭЛЭР–МЕНСК І КАРУПЦЫЯ

Так, як дазвол на алкагольныя напіткі ёсьць собскасьцю карпарацыі Бэлэр–Менск, то здавалася-б, што ніхто іншы, як карпарацыя маіць права на яго штогодняе аднаўленьня. Аднак дзьве беларускія праваслаўныя цэрквы грэцкай юрысдыкцыі із штатаў Н'Ю Джэрсі, Н'Ю Йорку рашылі перабраць гэны дазвол. Як трэба было і спадзявацца, што штатныя ўлады ім адмовяць. Так і здарылася. Каб пакрыць сваю неўдачу яны пачалі касячыць і марлячыць: данос, гэта за тое, што нас падалі да суда. Банкруты заўсёды валяць на тых, хто іх крытыкуіць, тым больш калі нехта падняў акцыю супроцьіх

11 год таму назад, карпарацыя Бэлэр–Менск прадала больш, як 40 дзялянак для Беларусаў гэнай арганізацыі. Няпісьменны і някультурны прэзыдэнт гэнай карпарацыі із сваімі адютантамі Кіпелям і Мерляком павялі акцыю каб пабудаваць пасёлак Пінск. Добрая ідэя аказалася непрактычнай каб аформіць усе дзялянкі адразу. Улады пачалі рабіць тэхнічныя вымогі скамплікаванага характару. Уся справа павісла ў паветры. Слухаючы мерляковы і кіпелявы выкрутасы–тлумачэньні некалькі год папарадку, некалькі людзей рашылі праверыць вартасьць выкрутасаў- тлумачэньняў. Адпаведныя ўлады вытлумачылі ў чым справа. Але гэта разьвязала гэтай тройцы рукі і язык. Замест таго каб сказаць праўду, што іх плян і парада адваката былі віноўнікамі неўдачы, яны пачалі крычаць, што быў зроблены данос.

Недастаўшы ліцэнзіі (лайсэнс) на продаж алкаголю, сьвятая і кананічная беларуская праваслаўная царква пад грэцкім пакрываламі, пачала гандаль алкаголем у нелегальны спосаб. Усе пра гэта зналі. Ніхто не рабіў даносы. Мішку, Грышку і іх апякуну Лапіцкаму павязло і на гэты раз. Чаму не? Зрабіць пратэст у адкрыты спосаб не адпавядаіць беларускаму характару.

*Старшыня Камітэту Абароны Бэлэр-Менску*

